**Пятніца**
13 снежня 2006 г.
**№ 16 (24)**
**наклад 299 ас.**
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

**ПРАЎДА**
**мастоўская**
свой горад сваімі рукамі



# Галадоўка як прызнак часу

**У сённяшніх палітычных умовах галадоўка - адзіны шлях, калі простыя людзі грамадзяне могуць паўплываць на прыняцце рашэння, якое тычыцца іх асабістых інтарэсаў і інтарэсаў іх супольнасці. Выбары не маюць значэння ўжо гадоў з дзесяць. У іх нават ніхто не верыць, а ходзяць “галасаваць” па інэрцыі, або “па запрашэнню” начальства, вертыкалі.**

Прынцып “аднаго акна” застаўся толькі прынцыпам, асаблівых поспехаў ад яго рэалізацыі не чутно. А вось шляхам галадоўкі можна паўплываць на вертыкаль. Гродзенскія каталікі гэта даказалі зусім нядаўна, калі нарэшце дамагліся дазволу на будаўніцтва касцёлу. Хапіла 5 дзён галадоўкі прыхаджан разам з ксяндзом, каб безнадзейная справа, якая цягнулася каля 10 гадоў, паспяхова вырашылася. І гэта ўжо 4 станоўчы прыклад у краіне, калі грамадзяне здолелі такім чынам дамагчыся ўвагі да сябе з боку беларускай дзяржавы і вырашэння іх набалелых праблем. Аднак не заўсёды галадоўкай можна зламаць бюракратычную машыну. Гэта ў першую чаргу тычыцца палітычных пратэстаў. Можна ўспомніць сёлетнюю галадоўку сябраў “Маладога Фронту”, якія пратэставалі супраць крымінальнага пераследу іх арганізацыі. Нягледзячы на колькасць удзельнікаў і працягласць галадоўкі, лідэр “Маладога Фронту” Зміцер Дашкевіч быў асуджаны на 1,5 года зняволення. Аднак можна сказаць, што пэўны поспех галадоўка мела: былі знятыя абвінавачванні супраць астатніх сябраў гэтай арганізацыі. Таксама мела пэўны плён галадоўка былога кандыдата на прэзідэнта А. Казуліна, якая цягнулася 52 дні і скончылася 11 снежня. Яго патрабаванне ўзняццё пытання наконт парушэння падставовых правоў чалавека і пераследу па палітычных матывах у Беларусі было нядаўна ўзнята на Радзе Бяспекі ААН. Грамадзяне стабільнай Беларусі усё больш прыбягаюць да галадоўкі як да апошняй магчымасці адстаяць свае правы.

*Віталь Садоўскі*



Былы кандыдат у прэзідэнты А. Казулін галадаў 52 дні з патрабаваннем разгляду палітычнай сітуацыі ў Беларусі на Радзе Бяспекі ААН

# НЕ БОЙЦЕСЯ

**“Не бойцеся!”- сказаў Ян Павал II палякам, калі іх з усіх бакоў сціскалі жорны аўтарытарызму і ваеннага становішча.**



**Ян Павал II**

Чым жыве сённяшняя сістэма, рэжым? Страхам. Яна трымаецца на людзкім страху і сама баіцца праўды і свабоднага чалавека. Запужаць, падпарадкаваць і знішчыць па адзіночцы. Вось асноўная стратэгія ўладаў. Мы таксама пераможам гэтую сістэму і падман, які ўбіваецца ў галовы з самага маленства. Не сёння, дык заўтра. Мы верым у перамогу і ўмеем чакаць. Галоўнае, каб нашы дзеці і ўнукі жылі ў вольнай краіне і не баяліся, што заўтра да іх прыйдуць і правядуць ператрус, а можа і абвінавацяць у тэрарызме, толькі за тое, што хацелі ведаць праўду - праўду аб выбарах, аб стане справаў у эканоміцы, палітыцы і г.д. Толькі трэба адкінуць страх і “калос на гліняных нагах” абваліцца.

*Вольга Навіцка*

### 12 снежня - 25 гадоў ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы

Каля 12 гадзін ночы з 12 на 13 снежня 1981 г. міліцыя і служба бяспекі затрымалі актывістаў “Салідарнасці”. Адключаны тэлефоны, спынены радыё і тэлепраграмы. Угэтых перапрыемствах прымалі ўдзел каля 100 тыс. міліцыянераў і салдат. На ўліцы выехала 3650 адз. ваеннай тэхнікі. Ваеннае становішча працянгвалася фармальна 586 дзёнда 22 ліпеня 1983 г. Але вынікі былі адчувальныя аж да здабыцця незалежнасці ў 1989 г.

**В.С.**

# МАСТОЎСКАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Дэмакратычныя актывісты Мастоўшчыны вырашылі заняцца зборам інфармацыі пра пацярпелых ад рэпрэсіяў, што закранулі як актывістаў грамадзянскай супольнасці, так і простых людзей.** Таксама яны вырашылі аказваць усялякую дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў. На сённяшні час ужо вядома некалькі прыкладаў салідарнасці ў адносінах да сваіх аднадумцаў. Маладыя людзі, якія пацярпелі праз сваю грамадзянскую пазіцыю, набылі магчымасць атрымаць адукацыю за мяжой бясплатна ў прэстыжных Еўрапейскіх універсітэтах Польшчы, Чэхіі, Нямеччыны, Нідэрландаў і інш. Мастоўцы навучаюцца ў асноўным ва ўніверсітэтах Польшчы. Акрамя таго, аказваецца дапамога рознага плану тым актывістам, якія зазналі ўціск з боку рэжыму.

Пацярпелых ад палітычных рэпрэсіяў грамадзян яны просяць звяртацца на электронную пошту:
**masty.salidarnasc@yahoo.com**

**В.С.**

# Беларусь заняла 13 место в мире по количеству пользователей Интернета

**Беларусь заняла 13 место среди стран мира по количеству пользователей Интернета.**

Такие данные приведены в распространенном в пятницу «Докладе об информационной экономике», составленном Конференцией ООН по торговле и развитию. В частности, согласно докладу, в Беларуси насчитывается порядка 3,39 млн. пользователей.

Согласно документу, к началу нынешнего года доступом в глобальную сеть обладали 1 млрд. 20 млн. 610 тыс. человек. По сравнению с предыдущим годом этот показатель вырос на 19,5 проц.

В первую «тройку» стран по числу интернет-пользователей вошли США - около 200 млн., Китай - 111 млн. и Япония - 85,29 млн. человек, передает "ProUA".

В России число пользователей «всемирной паутины» на конец 2005 года составляло 21,8 млн. человек, увеличившись за год на 17,8 проц. По этому показателю Россия находится на 11-м месте в мире, Украина заняла 12 место – в стране насчитывается порядка 4,5 миллионов пользователей.

# Новы закон можа пазбавіць працуючых пэнсіянэраў пэнсіі

**Дзякуючы высілкам прафсаюзаў разгляд законапраекту «Аб прафэсійным пэнсійным страхаваньні» ў Палаце прадстаўнікоў перанесены на вясновую сэсію. Паводле яго працуючыя пэнсіянэры могуць паўстаць перад няпростым выбарам: або праца, або пэнсія.**

Новы законапраект прадугледжвае скасаваньне шэрагу нормаў, што датычаць прадпрыемстваў з асаблівымі ўмовамі працы. У прыватнасьці працаўнікі такіх прадпрыемстваў могуць пазбавіцца права на атрыманьне датэрміновай прафэсійнай пэнсіі у выпадку, калі будуць працягваць працу.

Новы законапраект прадугледжвае таксама выключэньне пэнсійнага забесьпячэньня зь дзяржаўнай сыстэмы і перакладаньне яго цалкам на працадаўцу, то бок страхавыя выдаткі будуць уваходзіць у сабекошт прадукцыі. На думку апанэнтаў такой ідэі, такі крок можа абярнуцца падзеньнем канкурэнтаздольнасьці прадукцыі. Выклікае пытаньні і варыянт, калі пэнсійныя выплаты будуць рабіцца за кошт прыбытку прадпрыемства: у такім разе іншыя працаўнікі могуць пазбавіцца прадугледжаных калектыўнай дамовай ільготаў. Дый памер прыбытку ня ўсім прадпрыемствам і не заўсёды дазваляе рабіць гэтыя выплаты.

Салігорскае вытворчае аб'яднаньне «Беларуськалій» безумоўна адносіцца да такіх прадпрыемстваў. Таму мясцовы Незалежны прафсаюз гарнякоў (НПГ) не застаўся ў баку ад падзеі. Прафсаюз накіраваў адпаведныя афіцыйныя звароты ў Сакратарыят Палаты прадстаўнікоў і да дэпутата палаты ад Салігорску Пятра Калугіна, былога гендырэктара «Беларуськалію». Вынікам звароту да апошняга сталася сустрэча дэпутата зь кіраўніцтвам НПГ. Прадстаўнікі прафсаюзу выказалі непакой наконт зьменаў заканадаўства датычна пэнсійнага забесьпячэньня і пагрозы кулуарнага вырашэньня пытаньня, без абмеркаваньня ў СМІ і сярод працоўных. У выніку сп. Калугін ініцыяваў перанос разгляду спрэчнага законапраекту на вясновую сэсію. Адбыцца ён мусіў 14 сьнежня.

Афіцыйны прафсаюз таксама не застаўся ў баку. Прадстаўнікі Беларускага прафсаюзу хімікаў, што ўваходзіць у афіцыйную Фэдэрацыю прафсаюзаў беларускую, нават зладзілі збор подпісаў. Але як цьвердзіць прадстаўнік НПГ Дзяніс Талпека, рабілася гэта дзіўным чынам. Валантэры «хімікаў» толкам не маглі патлумачыць прычыну збору тых подпісаў, а часам рабочыя нібыта атрымлівалі чыстыя падпісныя лісты, якія пасьля можна было скарыстаць як заўгодна. Старшыня Незалежнага прафсаюзу працаўнікоў ААТ «Гароднязот» Сяргей Антусевіч лічыць, што афіцыйны прафсаюз у дадзеным выпадку зусім не выкарыстоўвае свайго становішча: маючы ў парлямэнце каля паўсотні сваіх прадстаўнікоў, можна на заканадаўчым узроўні бараніць правы працоўных.

Прадстаўнікі незалежных прафсаюзаў радыя кароткай перадышцы, але лічаць, што для поўнай перамогі вельмі важна давесьці сутнасьць праблемы і шляхі яе вырашэньня да найбольшай колькасьці зацікаўленых. Вопыт Незалежнага прафсаюзу гарнякоў паказвае, што пытаньне гэтае вырашальнае, нават улічваючы

# Лідэру ТБМ з Баранавічаў падкінулі патроны

**18.12.2006 г. у другой палове дня на кватэры баранавіцкага грамадзкага актывіста, былога выкладчыка гуманітарных дысцыплін эканамічна-юрыдычнага каледжа Віктара Сырыцы прайшоўператрус, які доўжыўся тры гадзіны. Рабілі яго тры міліцыянты і тры чалавекі ў цывільным.**

Як зазначыў у гутарцы з карэспандэнтам "НН" сп. Сырыца, пастанову абператрусе падпісаў намесьнік пракурора Баранавічаў сп. Бесан. Падстава -- была скрадзена жаночая сумачка, і міліцыянты праводзілі рэйд па "падазроных кватэрах". Падчасператрусу ў шафе была знойдзена скрыня з 20 баявымі патронамі. Сп. Сырыца адмаўляе сваю датычнасьць да яе: "Мая зброя - слова, а ня гэтыя здаровыя, бліщчастыя патроны". Апроч патронаў, былі таксама канфіскаваныя два сыстэмныя блёкі ад кампутара, улёткі, перавыбарчая дакумэнтацыя.

Пасьля ператрусу Віктара Сырыцу адвезьлі ў Баранавіцкі РУУС, дапыталі ў справе "зьнікненьня сумачкі" ды завялі крымінальную справу адносна захоўваньня патронаў. Увечары ён быў адпушчаны, але допыты ў справе захоўваньня патронаў пройдуць найбліжэйшымі днямі.

Сырыцу 53 гады, ён узначальвае Баранавіцкую суполку ТБМ і быў звольнены з працы за ўдзел у выбарчай кампаніі Аляксандра Мілінкевіча. Ён мяркуе, што сёньняшні ператрус - гэта помста за ягоны ўдзел у кампаніі па выбарах у мясцовыя саветы дэпутатаў. "Я многа каму дапамагаю падчас гэтае кампаніі", - кажа ён.

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 16 (24) 13 снежня 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.** дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty.prawda@hotmail.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на 2 тыдні.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі. Іх меркаванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюцьна яе ніякіх абавязкаў.